Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 14 траўня 1930 г. №. 18

## БЕЛАРУСЫ Ашмяншчыны, Лідчыны, Вялейшчыны, Валожыншчыны ды Шчучынскага і Маладэчанскага паветаў!

Грамадой ідзеце на выбары **25 мая** і, як адзін галасуйце за

**адзіны запраўдны беларускі сьпісак**

**Блёку Беларускіх Сялян і Работнікаў №: 45**

## Патрэба ўласнага цэнтру.

Ня гледзячы на тое, што ў выніку тактыкі камуністаў дзень 1-га мая прайшоў у-ва ўсей Польшчы назьдзіў бледна, толькі вельмі наіўныя людзі могуць думаць, што гэта—знак аслабленьня клясавага змаганьня ў Польшчы. Гаспадарчы крызіс, „ліквідаваньне“ якога апынулася цалком у руках буржуазіі, не перастае нязвычайна балюча біць па інтарэсах работнікаў і сялянства ды гэтак завастраць адносіны іх да пануючых клясаў. І гутарыць аб прытупленьні клясавых антаганізмаў—перадчасна.

Але калі з боку пануючых клясаў выяўляецца імкненьне коштам працоўных масаў латаць дзіры ў уласных кішэнях, калі гэта—агульнае зьявішча ў-ва ўсей Польшчы, дык да гэтага імкненьня далучаецца ў Зах. Беларусі яшчэ і другое імкненьне польскае буржуазіі, настроенай наагул вельмі нацыяналістычна. Імкненьне гэтае мае наўвеце ня толькі замацаваньне сацыяльнага панаваньня буржуазіі „дзяржаўнае нацыі“ над беларускімі сялянамі й работнікамі, але і поўную дэнацыяналізацыю беларусаў. Справа ў тым, што ўсё крапчэючае нацыянальнае пачуцьцё ў беларускіх масах яшчэ балей узмацняе іх адпорную сілу ў абароне сваіх сацыяльных інтарэсаў. Дык вось, змагаючыся з ростам нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларусаў, польская буржуазія, польскія абшарнікі спадзяюцца такім спосабам аслабіць адначасна гэтую адпорную сілу.

Ясна, што і барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускіх працоўных масаў мусіць іьсці двума шляхамі. Беларускія масы павінны зразумець (—дый яны ўжо пачынаюць рабіць гэта!), што без падняцьця культурнага роўня вёскі, без узгадаваньня сваіх нацыянальна сьведамых, высока-культурных павадыроў—інтэлігентаў, немагчыма бараніцца ад „культуркампфу“ (культурнага наступу) польскага нацыяналізму. Ясна, што і наш сацыяльны фронт, не сцэмэнтаваны пачуцьцём нацыянальнага адзінства, будзе заўсёды раскалывацца на некалькіх асобных, часта ўзаемна варожых сабе адрэзкаў, бо—пры адсутнасьці беларускага нацыянальнага кіраўніцтва—на чале нашых масаў будуць станавіцца тут і палякі, і маскалі, і жыды і навет літвіны, маючы свае асаблівыя, узаемна супярэчныя палітычна-нацыянальныя мэты, цягнучы беларускія масы ці то на службу нейкаму варшаўскаму, ці маскоўскаму, ці ўрэшце — ковенскаму палітычнаму цэнтру.

Пад чужацкім павадырствам жывы народ ня можа йсьці. І мы мусім мець свой уласны нацыянальны цэнтр, мусім узгадоўваць сваіх уласных павадыроў—узгадоўваць сваю ўласную інтэлігенцыю, высока эдукаваную і верную запаветам працоўнага народу. Толькі тады й беларусы ўвойдуць у сям'ю народаў, як самастойны сябра яе, ды за сацыяльнае вызваленьне не заплацяць новай нацыянальнай няволяй.

## Рэвалюцыя ў Індыі.

Арышт Ганді, якога ён сам усьцяж дабіваўся, бо зачынены ў вастрозе ён зусім нягорш, чым на волі, паслужыць барацьбе свайго народу за волю,—урэшце зроблены віцэ-каралём.

Праўду кажучы, для англійскай улады ня было ніякага іншага выхаду: „пасыўнае спраціўленьне“, лагодная акцыя „цывільнай непаслухмянасьці“ шпарка ператварылася ў шырокі запраўдны рэвалюцыйны рух, у якім кроў ужо лілася ракой... Але-ж гэта зусім ня значыць, што гэты адзіны выхад дапяў мэты. Зусім наадварот: як і спадзяваўся Ганді, народны рух ня толькі ня спыніўся, але, як кажуць апошнія весткі, толькі паглыбіўся ды расшырыўся. Арыштам Ганді закончыўся здаецца пэрыяд пасыўнага спраціўленьня: замест якога распачынаецца рашучая, актыўная барацьба.

---

Арышт Ганді быў зроблены ў ноч на 5 траўня ў яго лагеры ў Лярадыі. Мясцовы „староста“, паліцэйскі камісар, з 20 паліцыянтамі падыйшлі з электрычнай лятарняй да ложка Ганді, якога „злапалі на горонцым учынку“: ён спаў, як зарэзаны. Ганді ня выказаў найменшага навет зьдзіўленьня. Ен аддаў аднаму з сваіх прыхільнікаў, новае пісьмо да „мілага прыяцеля“ англійскага віцэ-караля, разьвітаўся з сваімі таварышамі і сеў у паліцэйскі аўтамабіль. Англійскі ўрад заявіў, што павадыру індускіх нацыяналістаў будуць забясьпечаны ўсялякія выгады ў вастрозе.

Апошнія весткі кажуць, што гуманны англійскі ўрад пастанавіў перавесьці Ганді з Індыі навет у Англію—у нейкія „Вронкі“, каб ён.. „не цярпеў залішне ад гарачыні, седзючы ў турме“... Гэтае „права“ вывезьці індуса сілком з роднага краю дае ўраду спэцыяльны закон. Пакуль што Ганді перавезены ўначы—цішком ад насяленьня—у ваенную санаторыю, далёка ад тых мясцовасьцяў, з якімі бліжэй зьвязана акцыя Ганді.

Англійскі ўрад выдаў спэцыяльны камунікат, у якім высьветляе матывы арышту Ганді. Ганді, і праўда, „стараўся ўтрымаць увесь рух у рамках пасыўнага спраціўленьня—без тасаваньня гвалтаў і наілстваў, пратэстуючы проці ўсяго гэтага, але пратэсты яго,—чым далей, тым рабіліся ўсё больш слабымі, а цяпер стала ўжо зусім ясна, што справіцца з выклікаными ім рухам ён ужо ня ў сілах“.

Далей камунікат закідае Ганді, што ён, „пасьля няўдалага (?) байкоту алькагольных вырабаў і заграністых тканін пачаў падбураць зямельных арандароў, каб не плацілі арэнды“... А пасьля стаў падрыхтоўваць з сваімі прыхільнікамі напад на саляныя капальні ў Джаразане і Чарванах—„каб прысвоіць (?) дабываную там соль, якая прыналежыць навет не ўраду, але прыватным уласьнікам“. Гэты напад урад павінен быў папярэдзіць, бо ён ня мог адбыцца без тасаваньня гвалтаў—з абодвух бакоў.

Урад доўга чакаў, але ўрэшце змушаны быў прыняць меры, бо інакш—дайшло-б да адкрытага паўстаньня проці ўраду, што выклікала-б праліцьцё крыві. Таму англійскі ўрад—поруч з урадам Індыі—пастанавіў пазбавіць Ганді свабоды руху“...

---

Арышт Ганді выклікаў жалобу ў-ва ўсім краі. У нязьлічаным радзе местаў зачынены крамы, біржы, фабрыкі. З другога боку, улады прынялі надзвычайныя меры, каб папярэдзіць бурныя выступленьні народных масаў. Але ў цэлым радзе местаў палажэньне вельмі напружанае: настроі прыхільнікаў Ганді—пагражаючыя, так што англійскія ўлады сьпешна перавозяць аружжа з з усіх прыватных крамаў у ваенныя арсэналы...

Працуе ведама-ж і мясцовая дэфэнзыва. Обыск у Пэшэвары, зроблены „ваенай паліцыяй“, даў „обфіты матэр'ял, зразумела-ж — страшэнна кампрамітуючы „гандзістаў“: „знайдзена („аутэнтычная“) перапіска Бюро кангрэсу індыйскіх нацыяналістаў—ну ведама-ж—„з суседняй дзяржавай“, з перапіскі ясна відаць, што Гандзі ўмовіўся з нейкім закардонным павадыром магамэтан Хаджыям, які павінен быў — на чале 100.000-най арміі ўвайсьці ў Індыю—дзеля супольнае з Індусамі барацьбы проці англійцаў“... Англійскае агентства зараз-жа дадало, што гэты Хаджыя запраўды ж зьявіўся на індыйскай граніцы з арміяй... у 400 байцоў, але магамэтане адмовіліся далучыцца да яго“... Адным словам — у усім, як у самых найлепшых „крэсавых“ дамах у Эўропе...

Аб характары паўстанчага руху кажуць такія факты, паданыя ў апошнія дні. У адным з буйнейшых местаў Шалапуры 8 траўня адбыліся паважныя разрухі, у часе якіх 25 чалавек забіта, а звыш 100 ранена. Таўпа падпаліла гмах суду, 6 паліцэйскіх пастэрункаў і ўсе крамы, гандляваўшыя алькагольнымі трункамі. Пачаліся разрухі з таго, што жыхары места пачалі сячы пад местам усё дрэва, з соку якіх гоняць мясцовую гарэлку. Паліцыя не дазволіла рабіць гэта. Калі таўпа не паслухала, паліцыя пачала страляць... Тады ўмяшаліся работнікі, якія пачалі запраўднае наступленьне. Паліцыя адступіла. Места — у руках паўстанцаў. Падобныя здарэньні—тыповыя для новага ходу падзей.

Ці можна прадбачыць хуткую перамогу паўстанцаў наагул?

Сумліўна. Стан вялізарнага краю такі, што акцыя пасыўнай і актыўнай барацьбы можа цягнуцца шмат гадоў. Трэба, ведаць, што на 300-350 мільёнаў усяго насяленьня Індыі есьць тамака блізу 70 мільёнаў магамэтан, якія, як людзі іншай веры, у масе варожа адносяцца да індусаў, падбураныя датаго-ж яшчэ праз англійцаў, дый праз купленае імі духавенства. Апроч таго, у краі живе да 70-ж мільёнаў так званых „парыяў“, — людзей „ніжэйшае расы“, ці „касты“, сябры якой амаль-што ня лічацца за людзей. Толькі панаваньне англійцаў прызнала за імі чэлавечыя правы ды забясьпечывае ім грамадзкую роўнапраўнасьць. Таму англійскія пісьменьнікі кажуць быццам і магамэтане і гэтыя „адкінутыя касты“ ня маюць ніякага энтузыязму да акцыі Гандзі, маючы на мэце выгнаньня англійцаў з краю. Без англійскай улады край вярнуўся-бы да законаў, панаваўшых сто гадоў назад, ня лічыўшых „парыяў“ за людзей... На гэта трэба адказаць, што ўся акцыя Гандзі якраз імкнецца і да таго, каб прыхіліць да сябе і магамэтан і „парыяў“. Толькі вялізарны аўтарытэт Гандзі-прарока здолеў зрабіць гэты нячуваны маральна-рэлігійны пераварот у душы Індусаў, тыя самыя Браміны, якія лічылі нягоднай,

## Добры прыклад.

На рукі беларускіх культурных арганізацыяў перадавыя кандыдаты сьпіску № 45 злажылі забавязаньні на пісьме, што, калі пройдуць у Сойм на выбарах у Лідзкім выбарным вокрузе, дык што-месячна будуць з пасольскае пэнсіі выплачываць на культурна-гаспадарчую працу па 700 злотых кожны.

Хай-бы і іншыя паны паслы пайшлі за гэтым добрым прыкладам! На-жаль, такіх людзей на іншых сьпісках нешта ня відаць...

ды яшчэ далёка ад усялякага нагляду вышэйшых культурных уладаў, — напр. — у цёмных кутох шматпакутнай Заход. Беларусі, адкуль—па слову Гоголя—„хоць тры гады скачы, ні да якога гаспадарства не даскочыш“...

Паводле апошніх дадзеных Польскага Галоўнага Статыстычнага Камітэту у Польшчы на 1-га студня 1930 г. было 30.732.000 жыхароў.

На п. Д'юі, фінансавага дарадцу Польшчы, які паехаў у гасьціны да румынскага ўраду, зроблены — пад самай сталіцай Румыніі — бандыцкі напад. П. Д'юі, які ехаў там з якойсь там вялікасьвецкай забавы ў аўтамабілі разам з жонкай польскага пасла ў Букарэшце і высокім румынскім дыплёматам, быў абрабаваны на чыста „па-балканску“... Дзякаваў толькі Богу, што з усей авантуры выйшаў жывы. Зразумела, ўся румынская паліцыя пастаўлена на ногі, каб злавіць спраўцаў нападу. Ці тыя, што будуць злоўлены, акажуцца запраўднымі бандытамі, гэта-ж — няважна... Але, што яны будуць добра пакараны—дзеля добрага прыкладу іншым, гэта-ж пэўна, — таксама — „па балканску“.

У бюджэтнай камісіі нямецкага парляманту ідзе дыскусія над бюджэтам ваеннага міністэрства. Лічбы, паданыя ў гэтым быджэце — запраўды-ж цікаўныя! Недарма французская і польская прэса страшэнна хвалюецца, паказываючы на быццам пагражаючую з боку Нямеччыны небясьпеку новай вайны... Навет дэмакратычная нямецкая прэса зьдзіўлена гэтымі лічбамі. Запраўды-ж бюджэт 100-тысячнай толькі (Вэрсальскі трактат не дазваляе Нямеччыне большай арміі) нямецкай арміі дайшоў блізу да 800 мільёнаў залатых марак, ці каля 5 мільярдаў французскіх франкаў!

Орган намецкіх дэмакратаў „Бэрл. Тагэбл.“ кажа, што навет у часе найвялікшага ўздыму нямецкага мілітарызму ў 1913 г. асабовы склад паўмільёнавай нямецкай арміі каштаваў толькі 185 міл. марак, а ў 1930 г. **стотысячная** нямецкая армія на гэта выдае аж 227 мільён марак! Гэта значыць, што ў 1913 г. на галаву кожнага нямецкага жаўнера Нямеччына выдавала 1200 марак, а цяпер выдае блізу 3000!.. Такім чынам пабітая, разброеная Нямеччына выдае на армію на 60 проц. больш, як у 1913 г.

Характэрна, што толькі на адны манэўры на гэты год мін. дзяржаўнае абароны трэбуе ў бюджэце 100 мільёнаў марак!... Навет нямецкія газэты згаджаюцца, што такой сумы ня выдала дагэтуль на гэтую рэч яшчэ ніводная дзяржава...

Французскія газэты кажуць, быццам гэтыя вялізарныя крэдыты — фальшывыя дый ідуць на таёмныя збраеньні.

Англійскія газэты в. устровыжыліся далёка зайшоўшымі перагаворамі паміж японскімі прамыслоўцамі і радавым урадам у справе вялікіх канцэсіяў, якія СССР мае даць японскай супалцы на права выкарыстываньня горных багацьцяў на Урале.

Начальнік Нью-іорскай паліцыі апублікаваў рад пісьмаў, з якіх відаць, быццам радавыя гандлёвыя агенты ў Амэрыцы падтрымліваюць рэвалюцыйную працу амэрыканскіх камуністаў. Гэта выклікала страшэнную трывогу ў Маскве, якая вельмі даражыць добрымі зносінамі... з амэрыканскімі капіталістамі.

Радавая прэса даказывае, што гэтыя пісьмы — грубая фальсіфікацыя; што зьмест гэтай „чарговай правакацыі апрычнікаў фінансавага капіталу“ — зусім ясны: гэта-ж толькі падрыхтоўка новых рэпрэсіяў проціў амэрыканскіх рэвалюцыйных работніцкіх масаў...

Можа й так.

Парагвайскі ўрад апублікаваў камунікат аб раскрытым у краі вялізарным камуністычным загаворы, які быццам меў мэтай захапіць цалком усю ўладу ў Парагваі. Край быў пакрыты густой сеткай ваенных і цывільных „ячэек“. Але ўрад здолеў папярэдзіць выбух камуністычнага паўстаньня і перавароту.

Ці факт, ці рэкляма? ня ведама.

# Хроніка.

× **Зьезд беларускіх і літоўскіх каталікоў.** У тым тыдні адбыўся ў Вільні беларуска-літоўскі каталіцкі зьезд. З беларускага боку ў ім прынялі ўчасьце ўсе актыўныя сілы беларускае хадэцыі — каталікі, прадстаўнікі якіх і ўвашлі ў склад выбранага на зьезьдзе беларуска-літоўскага-каталіцкага камітэту.

Зьезд, стоючы на груньце чыста каталіцкім і імкнучыся да шырэньня і ўмацаваньня ў нашым краю „каталіцкае ідэі“, выступіў вельмі рашуча проці палітыканства, якім займаюцца ксяндзы — палякі, і пастанавіў бараніць у касьцеле патаптаныя правы беларусаў і літвіноў.

Зьезд гэты, трэба думаць, будзе мець вельмі важнае значэньне ў далейшым жыцьці і дзейнасьці „нашае“ хадэцыі. Як ведама, пасьля разгрому Грамады павадыры хадэцыі захапіліся наіўнай думкай, што хадэцыя здолее заняць кіраўнічае месца ў беларускіх масах. Маючы гэта наўвеце, хадэцыя, якая складалася сьпярша выключна з каталікоў, абвясьціла, што з свайго выключна каталіцкага становішча пераходзіць на агульна-хрысьціянскае, дый пачала вэрбаваць сабе сяброў і сярод праваслаўных беларусаў. Дзеля „фірмы“ быў прыняты ў першы чарод сэнатар Багдановіч, шчыры маскаль, далёкі ад беларускае ідэі і аддані „единой, неделимой Россіі“.

Ясна, што гэты крок ня здолеў пацягнуць за хадэцыяй зрадыкалізаваныя і далёкія ад клерыкалізму беларускія масы. Але за тое хадэцыя не магла іграць такое ролі ані ў каталіцкім касьцёле, як арганізацыя, абымаючая і праваслаўных, ані ў праваслаўным царкоўным жыцьці, на якое ня могуць уплываць каталікі. Відаць, толькі цяпер зразумелі гэта беларускія хадэкі, дык і пастанавілі вырачыся сваіх шырокіх плянаў. Пераход выдатнейшых хадэцкіх павадыроў з агульна-хрысьціянскага становішча ізноў на становішча „каталіцкае ідэі“ паказуе, што хадэцыя ў дасюлешнім сваім стане і складзе збанкрутавала і стаіць напярэдадні развалу або — рэарганізацыі.

× **Агульны Сход Беларускага Студэнскага Саюзу.** Дня 11 траўня 1930 адбыўся Агульны Гадавы Сход сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу.

Першай галаўнейшай справай Сходу была справа завешаных сяброў БСС, як к. к. М. Скурчанкі, В. Уласавічанкі і Я. Касяка, якім, па прапанове Ураду і Рэвізыйнае Камісіі, Сход прызнаў кару дасюлешняга завешаньня выстарчаючай і вярнуў ім узноў сяброўскія правы.

У Урад Бел. Студ. Саюзу на 1930/31 абраны: Старшынёй — праз аклямацыі — к. К. Глінскі, сябрамі Ураду: Ст. Станкевіч, М. Зянюкова, А. Бартуль і З. Каўшанка; заступнікамі да Ураду — С. Сарока і У. Жураўлёў. У Рэвізыйную Камісію БСС. абраны М. Шкалёнак, М. Тулейка і Н. Гаўрылічанка.

На рэдактара „Студэнскае Думкі“ абраны праз аклямацыі кал. Ст. Станкевіч.

Варта адзначыць, што на парадак агульнага сходу была выстаўлена справа ўваходу БСС у Беларускі Нацыянальны Камітэт, горача падрымліваная студэнтамі Хадэкамі. Аднак Агульны Сход прымаючы пад увагу той факт, што Белар. Нац. Камітэт рэпрэзэнтуець толькі невялічкую частку беларускае грамадзкае думкі, іменна хадэкаў і сельсаюзнікаў, і што на чале яго стаіць не беларус — сэнатар В. Багдановіч, справу гэтую вялізарнаю большасьцю галасоў (проці 4-ох) адкінуў. Тады студэнты хадэкі ў ліку 4 чалавек дэманстрацыйна пакінулі салю сходу.

З важнейшых пастановаў сходу варта адзначыць справу ўтварэньня каляжэнскага суду, пастанову аб адсьвяткаваньні 10-ых угодкаў БСС і т. д.

Наагул трэба зазначыць, што на сходзе выявілася многа поступу ў працы беларускай студэнскай арганізацыі ў Вільні і вялікае грамадзкае вырабленьне - ідэйнае ўзгадаваньне яе сяброў.

× **Агульны сход сяброў Беларускага Каапэр. Т-ва „Пчала“**—28 красавіка а гадз. 11 ай раніцай адбыўся гадавы Агульны Сход сяброў Т-ва „Пчала“. Парадак дня быў наступны:

1) Адчыненьне і выбары прэзыдыюму.
2) Адчытаньне пратаколу папярэдняга Сходу.
3) Справаздача Управы і адчытаньне пратаколу урадавай рэвізыі.
4) Перавыбары Наглядной Рады.
5) Плян працы на 1930 год.
6) Бягучыя справы.

З справаздачы Управы выясьнілася, што Т-ва закончыла рахункі за 1929 год з чыстай прыбыльлю: 43 зл. 90 гр. з якіх, згодна § 42 статуту пастаноўлена: ў запасовы капітал адлічыць 10% — 4 зл. 39 гр. а з рэшты 39 зл. 51 гр. заснаваць рэзэрвовы капітал.

Выслухаўшы справаздачу урадавай рэвізыі, Сход прыняў яе да ведама і запрапанаваў Управе выканаць рады Рэвідэнта адносна павялічэньня абаротнага капіталу Т-ва.

Па поваду Справаздачы Сход выказаў абсолюторыюм Управе і Наглядной Радзе.

— У канцы сход пастанавіў перамяніць сядзібу „Пчалы“ перанёсшы яе на Віленскую вул. № 8 кв. 3.

× **Новая вучнёўская часопісь.** Вучні Клецкае Беларускае Гімназіі прыступілі да выдаваньня вучнёўскае часопісі пад назовам: „Першы Крок“. Першы нумар выйшаў у красавіку з наступным зьместам: 1. Ад рэдакцыі; 2. Сьмялей, браты, туды — Я. П; 3. З працы вучнёўскай самапомачы; 4. Песьня кавалёў; 5. З працы літэратурнага гуртка; 6. Воўк і баран — М. 7. Спагадлівая тройка— А. С. 8. З гумарыстыкі.

Агулам, зьмест цікавы. Нажаль, літаграфскі спосаб друкаваньня шмат у чым абніжае вартасьць малюнкаў, не даскінала адбіваючы іх на паперы. Трэба спадзявацца, што неўзабаве пасьля „Першага Кроку“ зьявяцца сярод Клецкае моладзі крокі сьмялейшыя!

× **Матуральныя экзамены.** 7-га мая распачаліся матуральныя экзамены ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Экзамены здаюць: 15 вучняў Віл. Бел. Гімназіі, 5 вучняў Клецкае Бел. Гімназіі ды 7 экстэрнаў.

12 га мая закончыліся пісьменныя экзамены. Вусныя пачнуцца толькі ў апошніх днях мая ці першых днях чэрвеня.

## Сейбітам.

Расьсявайце зерне сьвету
Па роднай краіне,
Й ня спыняйце працу гэту,
Бо дарма яна ня згіне!
Узыдзе яснаю зарою,
На ўвесь сьвет загаманіць;
Над Беларускаю зямлёю
Будзе слава вечна жыць.

Барыс Іванаў.

## Ідзі наперад!

Браты! Што зноў заснулі?
Далей! Сьмялей! Далей!
З дарогі вы зьвярнулі,—
Ня сплюшчвайце вачэй!
Дарога камяніста,
І ногі у крыві...
Далей там будзе чыста,—
Ня падай, а ідзі!
А хто ўпаў у дарозе
І шчасьця не дасяг,
Хай не засьне ў зьнямозе,
А славіць цяжкі шлях.
А хто зьвярнуў з дарогі,
Хай гіне у гразі!
Хто йдзе да перамогі, —
Сьмялей за тым ідзі!

1929. У. Т.

# Карэспандэнцыі.

## П. П. С-аў гоняць вон.

(Маладэчна).

У нядзелю 11-га мая пэпэсы (№ 2) арганізавалі на рынку ў Маладэчне прадвыбарнае веча. Веча было арганізавана пры помачы зялезнадарожнікаў з маладэчанскага вакзалу, часьць каторых, нажаль, дагэтуль належыць да пэпэсаў.

Каб хто ня знаў пэпэсаў, дык не пазнаў бы іх на вечу, бо аратары гэтых угадовых і казённых сацыялістых стараліся паказаць сябе радыкаламі перад маладэчанцамі. Як ведама, Польская Партыя Соцыялістычная разам з „хлопскімі“ партыямі („Вызваленьне“, „Стронніцтва Хлопскае“) галасавала ў Сойме за польскае асадніцтва на беларускіх землях. Таксама сёлета пэпэсы галасавалі за новае польскае асадніцтва ў Заходняй Беларусі. Дык пакуль агітатар з П. П. С. гаварыў радыкальна аб іншых справах, слухачы з яго толькі пасьмехаваліся. Але калі аратар выступіў проці асаднікаў, не прызнаючыся, што гэта-ж і П.П.С-ы насадзілі нам іх, дык жартлівы настрой слухачоў перайшоў у вялікае абурэньне. „Вон ашуканцы! У Сойме галасуеце за асадніцтва, а тутака, каб нам затуманіць вочы, выступаеце проці іх!“ Ня трэба нам вас і вашых асаднікаў!“ „Забралі беларускую зямлю, а яшчэ прыходзяць па беларускія галасы“, „далоў П.П.С-аў з іх польскімі асаднікамі“, „няхай жыве беларускі нумар 45!“ — несьліся адусюль крыкі. Не пазнаць было нашага супакойнага народу — так людзёў дэняло ашуканства пэпэсаў. Аб прадоўжаньні веча не магло быць гутаркі, людзі кінуліся на пэпэсаў, вырвалі ў іх і дзёрлі адозвы і нумары.

Пасьля гэтага выступіў з прамовай якісь маладэчанец, каторы выясьніў фальшывасьць абяцаньняў пэпэсаў і польскіх „хлопскіх“ партыяў („Стронніцтва Хлопскае“, „Вызваленьне“). Ен даводзіў, што трэба галасаваць за свой сялянска-работніцкі й беларускі сьпісак № 45. Слухачы яго горача паддзержылі; нікога ня было, хто-бы з гэтым не згадзіўся. Але няма ведама чаму паліцыя не дазволіла далей гаварыць беларускаму аратару, а як гаварылі пэпэсы, дык паліцыя іх не чапала.

Падарожны.

## „Веча“ № 18 ў Лебедзеве.

(Маладэчанскага пав.)

12 мая сёлета да нас у Лебедзева „соизволилъ“ прыехаць сэн. Багдановіч з Ярэмічам, арганістым Карузам, ды забралі з сабой яны нейкага пасла Ляшчынскага з Львова. Але з самага пачатку іх прыезду нашыя сяляне неяк пачулі да іх злосьць, бо ўчулі, што прыехаўшы арганісты Каруза гаварыў да Ярэміча папольску (толькі да нашых сялян гаварыў ён пабеларуску), а сэн. Багдановіч „изъяснялся“ якомусь свайму сябру „поистинно руски“. Прайшоўшы разы два па рынку, пан сэнатар і паслы пайшлі ў рэстаран, дзе сталі гатаваць сабе абарону ад сялян і галасавальнікаў за свой № 18, даючы ім гарэлкі і 50 зал. грашыма (усё гэта відзеў сябра А. з м. Маркава і прыйшоўшы аб гэтым нам казаў). Гэтак пасілкаваўшыся й умацаваўшы сваю абарону, выйшлі яны на ганак аднаго жыдоўскага дому. Пачаў прамову арганісты ў доўгіх панчохах.

Сказаў ён толькі, што „Беларусы“ з № 18 нічога ня будуць гаварыць, але прыехаў з Львова нейкі Ляшчынскі, каторы ўсё сялянам выясьніць, за каго галасаваць. На пытаньні сялян, хто стаіць на першым мейсцы ў № 18, арганісты адказаў, што ён аб гэтым скажа „потым“. У вадказ яму з таўпы паляцелі галасы: „Ня варта было цягнуць Ляшчынскага з Львова за 1000 кілёмэтраў, каб нас намаўляць галасаваць за Більдзюкевіча! Мы яго знаем лепей, як вы ў Львове! Далоў здрадніка Більдзюкевіча! Далоў польска-жыдоўскую буржуазную васемнаццатку! Усе будзем галасаваць за № 45!“ Бачачы, што „змагары“ ня сходзяць з ганку, у таўпе падняўся страшны крык: „Далоў Більдзюкевічаў і № 18!“ і з розных бакоў паляцелі ў Ярэміча, Багдановіча, Карузу й Ляшчынскага яйкі. Відзячы, што яйкі не перастаюць сыпацца, паліцыя стала разганяць таўпу і бараніць паслоў з № 18 і львоўскага Ляшчынскага.

Лебедзевец.

## Беларускія сяляне не згаджаюцца шкодзіць беларускаму № 45. Сьпіску № 43 („Opieka nad małorolnymi i bezrolnymi“) п. Гэрмана ўсе выракаюцца.

(В. Канюхі, Палачанскай вол., Маладэчанскага п.).

Каб пашкодзіць адзінаму беларускаму сьпіску № 45 Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку, якіясь цёмныя сілы выставілі ў Маладэчанскім пав. мясцовы польскі сьпісак „Opieka nad małorolnymi i bezrolnymi“ № 43 на чале з панам Гэрман. Падпісалі сьпісак Гэрманаў мясцовыя беларускія сяляне „вось так сабе, каб не злаваць суседа пана“.

10-га мая ў в. Канюхі, Палачанскай вол., была прадвыбарная зборка, скліканая Беларускім Сялянска-Работніцкім Блёкам (№ 45). На гэтай зборцы зьвярнулі ўвагу, што пан Гэрман—паляк; калі б ён стаў паслом, дык, як і іншыя паслы-палякі, пэўне галасаваў-бы за польскае асадніцтва на беларускіх землях і інш. Яшчэ болей зьвярнулі ўвагу на тое, што сьпісак Гэрманаў не дастане жаднага мандату, у гэтым пэўны сам Гэрман. Найболей сьпісак Гэрманаў (№ 43) мог-бы дастаць сотні 2 можа 3 галасоў; гэтым толькі крышку пашкодзіў-бы № 45. Дзеля гэтага шкоджаньня № 43 Гэрманаў і выстаўлены. Дык усе, як тыя, што падпісалі сьпісак Гэрманаў, так і кандыдаты Беларусы на гэным сьпіску, усе, як адзін, пастанавілі—не галасаваць за № 43 Гэрманаў, але галасаваць за свой беларускі сьпісак № 45 Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку

**Палачанскі.**

## Пазнаюць людзі шкоднасьць „Вызваленьня“.

(Вялікае Сяло, Маладэчанскай вол. й пав.).

Пры выбарах у 1928 г. „вызваленцы“ былі крышку заагітаваўшы беларускае насяленьне каля Малядэчна. Свой сьпісак „вызваленцы“ у Лідзкім вокрузе так улажылі, што на першым месцы паставілі паляка Карвэцкага з Гарволінскага павету, а на іншых мясцох паставілі беларускіх сялян. Ведама, „вызваленцы“ спадзяваліся, што, калі пройдзе ў Сойм, дык толькі першы паляк, а ўсе стаячыя за ім беларусы адно памогуць яму. І запраўды ў 1928 г. да аднаго мандату „Вызваленьню“ ня стала ў Лідзкім вокрузе 120 галасоў. Але й каля Маладзечна ранейшыя прыхільнікі „Вызваленьня“ ўжо пазналіся на ім. У нядзелю 11-га мая Беларускі Сялянска-Работніцкі Блёк (№ 45) склікаў у Вялікім Сяле пад Маладзечнам прадвыбарнае веча. Разгледзіўшы справу з усіх бакоў, на вечу ўсе аднагалосна пастанавілі пакінуць „Вызваленьне“ і галасаваць за № 45 Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку. Кандыдаты-беларусы „вызваленскага“ сьпіску таксама заявілі, што яны будуць галасаваць за № 45. Яны шкадавалі што з прычыны позьняга часу ня могуць зьняць сваіх кандыдатур са сьпіску „Вызваленьня“ (№ 3).

**Былы „вызваленец“.**

## За „Странніцтва хлопскае“ галасаваць ня будзем.

(М. Шчучын каля Ліды).

Места Шчучын і яго ваколіцы заселены вылучна Беларусамі. Але нажаль, пад той час, калі па ўсіх нашых землях ужо прагрымеў беларускі адраджэнскі кліч, і нашыя вякамі няволеныя сярмяжныя беларускія сяляне самадзейна прыступілі да змаганьня за свой лепшы быт, у нас, у Шчучыне, справа нацыянальнага ўсьведамленьня далёка адстала.

І дзеля гэтага ў нас яшчэ да апошняга часу мелі пасьпех як пры выбарах у Сойм, так і пры розных іншых справах, — чужацкія нам партыі. Гэтак і сяньня, карыстаючыся нашай цямнатой і несьвядомасьцю, стараецца пажывіцца ў нас пры цяперашніх выбарах у Сойм, польскае „Странніцтва Хлопскае“ (№ 10), высылаючы ў нашы вёскі цэлыя арміі агітатараў, ды абяцаючы нам рай на зямлі.

Аднак, паміма пекных слоў, ужо некаторыя ў нас ведаюць і нягодную работу „Странніцтва Хлопскага“, як насыланьне на нашы землі польскіх асаднікаў, галасаваньне проці беларускіх школаў і т. д. І вось, калі 8 мая с. г. зьявіўся да нас у Шчучын адзін пасол з „Странніцтва Хлопскага“ і пачаў заахвачваць галасаваць за яго сьпісак, то ўжо нашы сьляне не паддаваліся яму так лёгка ды са сьмехам глядзелі на яго звадку з польскім вучыцелем, ведаючы, што гэтая звадка, як з боку пасла, так і з боку вучыцеля была зроблена сумысна, каб ашukiваць наш народ.

А ў гэты-ж самы мамэнт нашы сяляне з увагаю слухалі свайго чалавека, Беларуса, ад сьпіску Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку № 45, бо гэты сьпісак ёсьць адзіны, які напраўду бароніць нашы інтарэсы.

Дык сяляне Шчучынцы! Ганеце вон усякіх чужых прыблудаў, ніводнага голасу ня дайце за „дзесятку“, бо яны толькі хораша гавораць, а напраўду жадаюць нам згубы. А ўсе, як адзін галасуйце за сьпісак Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку № 45.

**Шчучынец.**

## Добрыя людзі пакідаюць № 10 „Stronnictwa Chłopskaha“.

(м. Вішнева, Валожынскага пав.)

Нас, Вішнеўцаў, вельмі дзівіла, што такі паважаны ў нас чалавек, як Язэп Бітэль з Альшанкі, належыць да „Стронніцтва Хлопскага“. Але добрыя людзі могуць толькі да часу мыліцца. Так сталася із Яз. Біталём. Пазнаўшы шкоднасьць „Стронніцтва Хлопскага“ (№ 10) для беларускага народу, Язэп Бітэль нядаўна выступіў з яго і радзіць усім галасаваць за № 45 Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку.

Перад сваім выхадам з „Стронніцтва Хлопскага“ грам. Яз. Бітэль меў публічна гутарку ў Вішневе з першым кандыдатам № 10, Дуброўнікам. Я. Бітэль папытаўся ў Дуброўніка, чаму гэта яго (Дуброўніка), засуджанага на 6 год катаргі, звольнілі з турмы пад маленкую каўцыю 300 зал.? Другое пытаньне было: як гэта Дуброўнік мог у пачатку красавіка зрабіць у Шчучыне напад на паліцыю, і за гэта яго не зачапілі? Дуброўнік пачырванеў, мік-мік і нічога ня мог адказаць. Людзі гэтую гутарку ў Вішневе чулі і ківалі галавамі: прыкідаваюцца кандыдаты № 10 радыкаламі, а тымчасам ёсьць у вялікай ласцы ў паліцыі.

Вылазіць цяпер наверх шмат „штучкаў“ „Стронніцтва Хлопскага“. Гэтак, інструктары іхнія сёлета зімой і вясной разьяжджалі па вёсках і пісалі для сялян множства заяваў. Вось-ж аказалася, што гэныя заявы яны нікуды не падавалі, а проста кідалі: цэлыя кучы гэных заяваў пазнаходзілі ў Вішневе.

**Мясцовы.**

## Дэмаралізацыя.

(З Валожынскага пав.).

Нашая інтэлігенцыя, як і ўсюды ў Заходняй Беларусі, апынулася ў вельмі цяжкім палажэньні, бо пазбаўлена інтэлектуальнай працы, да каторай раней гатавалася. Добра яшчэ, калі наш вясковы інтэлігэнт мае сваю лапіну зямлі. Часта ня маючы зямлі або маючы яе вельмі мала, ён ня мае з чаго жыць. Ня гледзячы на гэта, большасьць беларускай інтэлігенцыі нашага кутка захавала сваё беларускае і маральнае аблічча.

Але нажаль некалькі ёсьць і такіх, за каторых нам, Валожынцам, прыходзіцца чырванець ад стыду. Дзеля таго, што ўсякую гніль трэба вынасіць на дзеннае сьвятло, каб гэткім парадкам зараза ад сонца гінула, дык і я напішу аб іх некалькі слоў. Да гэткіх людзей належаць у Валожыне і яго ваколіцах — Васіль Кароль з в. Бурмакі, Аляксандар Кулак з Севяцевіч, Сымон Сухадолец з Дубіны і Янка Балашка з Валожына. Васіль Кароль займаецца пісаньнем сялянам заяваў і добра з гэтага зарабляе. Сам хваліцца, што мае 80 зал. у дзень. Нажаль, гэта яго ня уздзяржывае ад іншых, шкодных беларускай справе і немаральных паступкаў.

У 1928 г. ў пачатку сакавіка ён быў арыштаваны, вінавацілі яго ў належнасьці да камуністычнай партыі. Пасьля некалькіх месяцаў Васіль Кароль быў звольнены з турмы, і судовая яго справа спынена. Звольніўшыся з турмы, Васіль Кароль адразу дастаў ад староства дазваленьне на бюро заяваў („biuro podań“) у Валожыне. Адначасна з гэтым на зычэньня заступніка старосты ён узяў сабе за памочніка ў бюро заяваў ведамага ў нас Падкіданца. Падкіданец быў раней камэндантам паліцыі ў Забрэзьзі (12 вёрстаў ад Валожына). Падкіданец, працуючы ў В. Караля, не перастаў належыць да паліцыі, хоць ужо тайнай. І вось прыходзілі сяляне, знаёмыя і суседзі Каралёвы і шчыра адкрывалі сваю душу, ня ведаючы, з кім маюць дзела.

10 красавіка сёлета прыехалі ў Валожына паслы з клюбу „Змаганьне“, Гаўрылік і Грэцкі. В. Кароль разам з сваімі сябрамі адкрыта агітуе за іх. Ня гледзячы на гэта, ня губляе ласкі ў улады, бо вось за пасярэдніцтвам заступніка старасты яго каса хворых звальняе ад кары 1500 зал.

Гэтыя самыя людзі падзьдзержаваючы заўзята „змаганцаў“ з іх сталінаўскай работай, а за якісь час усе ўвайшлі ў комітэт № 18.

Хіба ня ўсе яны й самі ведаюць, каму з трох пералічаных „паноў“ яны робяць большую работу.

**Валожынец.**

## Бібліяграфія

**„Родная Мова“ № 1—2. Студзень-Люты. 1930. Вільня. Выдае Беларускі Гаспадарскі Зьвяз. Рэдактар д-р Ян Станкевіч.**

Выхад часопісі „пасьвячонае пытаньням беларускае мовы“, як кажа сама рэдакцыя яе, — гэта ў нашых страшэнна цяжкіх варунках нацыянальнага жыцьця зьявішча не штодзеннае. Тым балей, што рэдакцыя абяцуе, што будзе дапамагаць беларускай інтэлігэнцыі, на долю якое выпадае разьвіваньне і ўзбагачываньне нашае літэратурнае мовы, разабрацца ў тэй масе пытаньняў і правапіснага, і граматычнага, і слоўнікавага характару, якія так часта ўзьнімаюцца ў нас у часе практычнае працы.

У першы нумар увайшлі гэткія працы: С. Я. — Язык і языкаведа; д-р Я. Станкевіч—Беларускія плямёны і іхняе рассяленьне; Да беларускага перакладу „Слова аб палку Ігаравым“; Да вымовы й правапісу чужых словаў; Распадабненьне шыпячых у беларускай мове—і цэлы рад крытычных заметак і рэфэратаў прац, датыкаючых беларускае мовы. Як бачым, зьмест—на 48 страніцах—даволі багаты. Нажаль, рэдакцыя з першага-ж нумару робіць чыстую рэвалюцыю ў беларускім правапісе і беларускай граматыцы. Пэўне ў сваім часе яна пастараецца растлумачыць і абаснаваць свае рэформы, якія знаходзяцца ў супярэчнасьці з усімі істнуючымі беларускімі граматыкамі і выклікаюць у чытача слушнае недаўменьне. Бо-ж запраўды трудна зразумець, чым рэдакцыя кіравалася, ўвёўшы, да прыкладу, ў давальным склоне множнага ліку ад слова „пытаньне“ — форму творнага склону адзіночнага ліку („пытаньнем“), а для творнага склону адзіночнага ліку ўвёўшы, наадварот, форму давальнага склону множнага ліку („пытаньням“) і гэтак далей.

Ня будзем аднак, задзержывацца на разглядзе рэформацыйнае дзеяльнасьці новае часопісі: гэта вымагае спэцыяльнага навуковага дасьледу, для якога ў нас месца не хапіла-бы. Адзначым толькі важнасьць самага факту распачатае працы і надзею на тое, штб на старонках часопісі знойдуць магчымасьць высказацца і праціўнікі ўведзеных рэдакцыяй зьменаў і навін.

## Паштовая скрынка.

**Званару.** Вашы творы атрымалі. Разгледзім і што магчыма, выкарыстаем.

**Ул. Томко.** Газэту пасылаем Вам, як сталаму супрацоўніку, бясплатна. За матэрыялы дзякуем, карыстаем. № 14 дасылаем.



Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.